# Проці польскай няволі.

ВАРШАВА. Газэты наказаваюць з Галічычны аб пачатку непрыяцельскіх дзеяньняў між украінскімі і польскімі войскамі. Львоў ваняты украінскімі палкамі. Жалезнадарожны мост праз Сан узарваны, украінцы занялі Перамышль. Украінская армія пад начальствам генэрала Гауса, пры каторай ёсьць эрц-гэрцог Вільгэльм, ідзе на Раву Рускую і Замосьце.

ЛЬВОЎ. 2.XI. У 4 гадз. нараніцы узброеныя украінскія салдаты занялі ўсе урадовыя і грамадзкія будынкі. Украінская вахта адабрала ў салдатоў іншых нацыянальнасьцей аружжа. Жалезнадарожныя, тэлеграфныя і тэлефонныя зносіны сьпынены. Намесьнік Галічычны арыштаваны. Апавяшчэньнямі Украінская Нацыянальная Рада заяўляе, што прыняла ўпраўленьне ўсходняй Галічынай. Між украінскімі і польскімі аддзеламі пачаліся стычкі. Украінскі камэндант места абвесьціў асаднае палажэньне.

трычніка прыводзіць тэкст адрэсу палякоў з Беларусі польскай Рэгенцыйнай Радзе аб абароне польскіх паноў на Беларусі ад большэвікоў. Адрэс падпісалі паны: Леон Любенскі, Эдмунд Івашкевіч, Міраслаў Обідзерскі, Вальдэмар Дэрналовіч, Маўрыс Патоцкі і прадстаўнік польскага камітэту ў Вільні, Эўстахі Сапега.

Мы добра ведаем, што ад большэвікоў трэба бараніцца, што іх ня можна ўпусьціць у свой край, але мы таксама ведаем, што ад аднэй няволі ня можна выбіраць другой і польскія паны ня маюць ніякага права гаварыць за беларускі народ. Тое, што ніхто іншы, але асабліва паны так рупяцца аб Польшчы, павінна як найляпей пераканаць нашага сяляніна, што не сяляніну дарога ў Польшчу. Каб не дапусьціць-жа большэвікоў зрабіць анархіі ў Беларусі, трэба арганізаваць сваё беларускае войска. Сваё войска абароніць незалежную Беларусь, а ў незалежнай Беларусі будзе абаспэчаны парадак і спакой і будуць здаволены ўсе патрэбы беларускага народу. **Я.**

## У Вільні і ваколіцах.

× **Госьць з Менску.** У нядзелю 27 кастрычніка праездам заграніцу ў Вільні быў старшыня Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, Я. Лёсік.

× З панядзелку Літоўская Тарыба засядае блізу без перарыву. Яна займаецца пытаньнямі аб арганізацыі Літвы. Пытаньне аб учасьці іншых нацыянальнасьцей у гэтай рабоце ўсё яшчэ не разьвязана.

× **Рэзалюцыі жыдоўскага мітынгу.** У чацьвер 31 кастрычніка на жыдоўскім мітынгу, каторы быў скліканы з пазваленьня немецкай ўлады левымі групамі, вынесены гэткія рэзалюцыі:

1. Пастаноўлена дамагацца ўтварэньня прадстаўніцтва м. Вільні складзенага з усіх нацыянальнасьцей (літвіноў, беларусаў, жыдоў, палякоў) у аднолькавай лічбе. У кожнай з нацыянальных груп павінны быць прадстаўлены таксама ўсе палітычныя і грамадзкія элемэнты левыя, правыя і цэнтр.

2. Запротэставана проціў улады Тарыбы над Вільняй.

3. Спомненае ў пункце першым прадстаўніцтва павінна заняцца склі́каньнем устаноўчага сойму для ўсяго краю.

× Уцекачы, што варочаюцца, могуць па прадлажэньню штадтгаўптмана не пазьней 30 лістапада падаць рэквізыцыйныя квіткі, каторыя ў іх ёсьць ад немецкага войска, ў аддзел рэквізыцый, Ягелёнская № 8, першы этаж.

× У віленскім жыдоўскім шпіталі пачынаюцца 15 лістапада курсы для сёстраў міласэрдзя. Курсы дарма. На курсы яшчэ прымаюць.

× Проці палявых мышэй і суслікаў цяпер самая пара весьці энэргічную барацьбу. Іх найляпей труціць фосфорнымі прэпаратамі.

× **Пагром?** Варшаўская жыдоўская газэта, „Moment“ наказавае, што ў Вільні быў крывавы пагром, пры гэтым былі два забітыя і каля сотні раненых. З Вільні ў Бэрлін паехала жыдоўская дэлегацыя, каб прасіць недапусьціць падобных здарэньняў.

Увага рэд. „Гомана“: нам аб гэтых здарэньнях нічога не вядома і „Moment“ стаўся ахвярай містыфікацыі.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошнія нді была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 31—1 | + 10,0° | + 6,6° |
| 1—2 | + 9,1° | + 4,1° |
| 2—3 | + 5,0° | + 3,0° |
| 3—4 | + 6,5° | + 1,9° |

## З усяго Краю.

### З Тарыбы.

З прычыны заявы п. Сьметоны, што намецкі ўрад лічыць учасьце ўсіх нацыянальнасьцей краю ў яго арганізацыі за ўнутраную справу Літвы. «Kow. Zeit.» піша, што немецкі рэйхсканцлер, наадварот, падчыркнуў патрэбу ўчасьця іншых нацыянальнасьцей пры ўтварэньні ўраду.

У сувязі з гэтым заседаньні 30 кастрычніка Тарыба выбрала камісію з Віленйшыса, Алёхны і Бізанскаса для прыгатаваньня матар'ялу ў справе ўчасьця ўсіх нацыянальнасьцей краю.

### Асьвета ў цэнтральнай Беларусі.

Уся асьвета ў цэнтральнай Беларусі (Меншчына, Вітэбшчына і часьць Віленшчыны) цяпер у беларускіх руках. Асьветай кіруе колегія, складзеная з трох чалавек: профэсара Э. Карскага, прыват-доцэнта д-ра В. Іваноўскага і кандыдата філёлёгіі пецярбурскага унівэрсытэту Б. Тарашкевіча. Пад загадам праф. Э. Карскага ўсе сярэднія школы, пад загадам д-ра В. Іваноўскага школы адумысловыя (тэхнічныя аграномныя, каморніцкія і г. п.). Пад загадам Б. Тарашкевіча ўсе народныя школы.

### Беларускія вучыцельскія курсы ў Менску.

Заместа паехаўшага дэлегатам у Бэрлін і Швайцарыю Я. Лёсіка на беларускіх вучыцельскіх курсах у Менску вучыць беларускай мовы Б. Тарашкевіч.

### Беларуская мова ў духоўнай сэмінарыі.

У Менску ў каталіцкай духоўнай сэмінарыі ўведзена навучаньне беларускай мовы, літэратуры і гісторыі Беларусі. Профэсарам усёй беларушчыны (alba ruthenica) ёсьць кандыдат філёлёгіі пецярбурскага унівэрсытэту п. Б. Тарашкевіч.

### Цённыя сілы зьбіраюцца.

З усіх старон Беларусі даходзяць дрэнныя чуткі. Варочаюцца з Расеі паны расейцы папы, русыфікатары і расейскія чыноўнікі. Трасуцца яны ўсе за свае кішэні і каб захаваць за сабой сваю маетнасьць яны арганізуюцца ў рускія камітэты.

Польскія паны ня сьпяць так сама.

Беларусы зьвярніце на гэта ўвагу!

### Гдзе нашыя званы?

Расейцы адступаючы ўзялі з сабой з нашага краю вельмі шмат званоў. Як наказаваюць украінскія газэты, каля станцыі Боркі, недалёка ад Харкава ляжаць на адкрытым полі некалькі тысяч званоў ад малых да самых вялікіх. Напэўна там ёсьць між імі шмат званоў з беларускіх мест і вёсак.

## Беларусы!

Сьвет гарыць. Цэлыя гасударствы лопаюцца. Цэлыя гасударствы будуюцца нанова. Ніхто ня ведае што будзе заўтра.

Можна толькі з пэўнасьцю сказаць што выйдуць жывымі з гэтай сусьветнай навальніцы толькі дужыя. Гора ўсім слабым.

Беларусы! Вы павінны быць дужымі.

Арганізуйце ўсюды беларускія рады. Робіце сходы па валасцёх выбірайце ў раду самых справядлівых людзей.

Грозны час падходзіць.

Хутка прыдзіцца Радам узяць увесь кірунак краем у свае рукі.

Слухайце голасу Цэнтральнай Беларускай Рады ў Вільні!

### „Das neue Litauen“ перастала выходзіць.

Выдаваны баронам ф. дэр Ропп у Бэрліне журнал «das neue Litauen» з прычыны конфлікта між баронам Роппам і прэзыдыумам Тарыбы перастаў выходзіць.

### Палякі аб палякох.

Польская социялістычная партыя (П. П. С.) ў Варшаве выдала патайную адозву: «Нашая буржуазія лічыць сябе ўжо сягоньня гаспадыняй Літвы і Беларусі і маніцца зрабіць з іх вежу для польскай бюрократыі і калонізацыйнай зямлёй для польскіх сялян».

### Польскія фантазіі.

«Ziemia Lubelska» вырахавала, што паводле праграмы Вільсона (!?) будучая Польшча будзе абымаць балей за 300 тысяч квадратных кілёмэтраў з каля 30-ма міліёнамі жыхароў. З іх 23 міліёны палякоў.

Цікаўна было-б даведацца колькі „бела-палякоў“ будзе між гэтымі 23-ма міліёнамі?

### Амністыя ўцёкшым палонным.

Загадам главнакамандуючага на ўсходзе ўсім ўцёкшым расейскім ваённа палонным у нашым краі, каторыя самахоць явяцца паліцыі ці жандармэрыі не пазьней 13 сьнежня, будзе дарована кара.

### Польскія прэтэнзыі.

Польскі міністэр-прэзыдэнт, Сьвежынскі, апавясьціў праграму нова-

цы заявілі, што будуць стаяць за Вэнгрыю, як за бацькаўшчыну, але жадаюць поўнай свабоды нацыянальнага, школьнага і царкоўнага разьвіцьця. У Сараеве абвешчана велікасэрбская нацыянальная рада, каторая аслабаніла забіўцаў эрцгэрцога Францішка Фэрдынанда, з прычыны сьмерці каторага пачалася сусьветная вайна.

МЮНХЭН. 2.XI. Баварскі кароль рэскрыптам ураду заявіў аб сваім жаданьні, каб у будучыне Баварскі ўрад меў даверые Баварскага парлямэнту. Баварскае мініс тэрста падало ў адстаўку. Апавешчана шырокая амністыя.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). У Вэнгрыі ўтварылася міністэрства Каролі. Яно спадзяецца ў кароткі час спыніць непарадкі. Эрцгэрцог Язэп наказаў нацыянальнай радзе, што кароль Карл згадзіўся на міністэрства Каролі.

ВЕНА. 31.X. Гр. Стэфана Тішу, б. вэнгерскага міністра-прэзыдэнта, забілі салдаты падчас спацэру на вуліцы.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 3.XI. Як наказаваюць з Вены гр. Андрашы вышаў у адстаўку.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 1.XI. Індускі цэнтральны камітэт у Эўропе зьвярнуўся з просьбай да Вільсона абараніць 315 міліёнаў людзей у Індыі ад Англіцкага ўціску. Англіцкі імпэрыялізм — гэта праўдзівая прычына крывавых войнай ува ўсіх мясцох сьвету.

БЭРЛІН. 31.X. **Верхняя Палата** Верхняя Палата аднагалосна прыняла прадложаную б. начальнікам упраўленьня Літвы, гр. Еркам, рэзалюцыю аб вернасьці дынастыі гогенцолернаў.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкія апавяшчэньні.

### 1.XI. Заходні тэатр.

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* У Фляндрыі непрыяцель пачаў узноў свае штурмы. Наабапал Зомэргэн мы адабралі назад контратакай утрачанае часова мастовае ўкрапленьне. На рэшце фронту мы адкінулі непрыяцеля перад нашымі лініямі. Глаўную атаку французы і англічане вялі між Даінцэ і Шэльдай. На паўдня ад Дэінцэ пры Сэльтэ-Амцэгэн непрыяцель уварваўся ў нашыя лініі, але контратакай быў ўзноў адкінены назад за дарогу Дэінцэ-Круісгаутэм. Войскі на поўнач ад дарогі Кортрык-Удэнарт адыйшлі праз дзень на вышыні наабапал Нокерэ. Бітвы ўвечары задзяржаліся на двох або трох кілёмэтрах на ўсход ад нашых старых позіцый.

*Фронт нямецкага Насьледніка:* На вышынях Энь артылерыйская бітва вялізнай сілы. На паўночна-ўсход ад Гэрпі непрыяцель з новымі сіламі пачаў свае моцныя штурмы. Яны адкінены з самымі цяжкімі стратамі.

*Фронт ф. Гальвіца:* На ўсходнім беразе Маас ажыўленая артылерыйская бітва.

### Паўднёва-ўсходні тэатр.

Нямецкія войскі ўзяты на паўночны бераг Дунаю між Белградам і Сэмэндрыяй. Перайшлі праз Дунай без перашкоды непрыяцеля.

### 2.XI. Заходні тэатр.

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* На фронце Ліс бяз зьмен. На паўдня ад Дэінцэ мы адышлі за Шэльду. На паўдня ад Валянсэнь сільныя штурмы англічан. Пры Ольруа непрыяцель уварваўся ў нашыя лініі і дайшоў паўднёвага прадмесьця Валянсэнь. Уначы мы нязначна ад непрыяцеля пакінулі места.

*Фронт нямецкага Насьледніка і ф. Гальвіца:* Пасьля вялізазнай артылерыйскай бітвы французы і амэрыканцы пачалі штурмы між Аргонамі і Маас. На вышынях на заход ад Энь між Лё-Шэльф і Гэрпі адкінены штурмы непрыяцеля. На ўсход ад Лё-Шэльф непрыяцель нідзе ня мог дайсьці да нашае лініі. Пры Баног у ўпорнай бітве на штыхі непрыяцель адкінены. На ўсход ад Рэзуврапс штурм непрыяцеля адкінены перад нашымі лініямі. Вышыні пры Фэржы праходзілі шмат разоў з рук у рукі, нарэшце мы іх удзяржалі. Наабапал Рэтэль непрыяцель перайшоў на паўночны бераг Энь, але контратакай быў адкінены за рэчку. Вялікімі сіламі французы атакавалі ад Фузьей да Гранфрэ. Ля Вонк непрыяцель перайшоў праз Энь і ўзяў вышыні на ўсходнім беразе ракі. Пры Невіль-Э Дэ і пры Торон мы задзяржалі непрыяцеля. Наабапал Вузьей непрыяцель 6 разоў штурмаваў, але быў адкінуты далёка перад нашымі лініямі. Пры Вангі непрыяцель адкінены контратакай. Непрыяцель захапіў Фалезь. Між Энь і Конт непрыяцельскія штурмы адбіты перад нашымі лініямі. Між Энь і Маас амэрыканцам удалося на вузкім фронце ўварвацца ў нашую позыцыю і ля Баёнвіль дайсьці да нашай артылерыйскай лініі. Пад канец бітвы непрыяцель задзержаны на лініі Шанпінэль-Анкрвіль.

### 3.XI. Заходні тэатр.

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* У Фляндрыі мы ўзялі нашыя войскі пры Ліс назад да Гента. Пры Валянсэнь упорныя бітвы. Англічане адціснулі нас на Сультэнь і занялі Прэссу. Віле-Поль мы ўдзяржалі проці многіх штурмаў. Пры Лянбрэсі мы контратакамі адкінулі наступленьне непрыяцеля.

*Фронт нямецкага Насьледніка і ф. Гальвіца:* На заход ад Гіз наступленьне непрыяцеля адкінена. Між Эн і Шампінэй мы ўзялі наш фронт назад. На заход ад Мозэль упорныя стычкі.

---

Лейтнант Буклер меў 35 пабеду ў паветры.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

ВЕНА. Італьянскія марскія афіцэры ўварваліся ў гавань Поля і затапілі броненосец «Wiribus unitis».

Італьянскі флот у сераду увечары ўвайшоў у гавань Рэка (Фіумэ)

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 3.XI. Навакол Англіі нашыя падводныя лодкі ізноў затапілі 46.000 тонн, між імі дзьве цыстэрны.

# Думкі на чародзе.

Каб ведалі вы, браточкі мае, што я вам буду баяць, дык вы за брухі хапаліся-бы зо сьмеху, дальбог праўда!

Бо ў мяне, што слова, то й праўда. А праўдзіць я стаў ад таго часу, як пасядзеў у турме за чужога каня, што прыпадкам у начы пад'ехаў, ды злавілі і білі ды на гарачыя скавароды ставілі.

Ад таго разу я ня раз гаварыў сваім:

— Слухай мяне, дык скора будзеш у Ашмяне, у турме!

Бо я ведаю і суды, і начальства і турму! Я ўсё ведаю.

Бо што, скажэце, проці мяне варт гартай даматур, каторы ведае толькі бульбу абіраць ці венікі вязаць, га?

Во нядаўна сабраліся вясковыя паталкаваць аб вайну, што робіцца на сьвеце.

Ну што толькі яны ня здумаюць, што ўзбрыдзе ім на ўмо, тое лапочуць!

Кажуць, баўгарскі цар пашоў упрочкі, аўстрыяцкія народы разбрыліся хто сабе. Кароль аўстрыяцкі карону траціць.

Ну ці-ж гэта можа быць праўда?

Кажуць нямецкае войска маніцца нас пакінуць дыісьці бараніць сваю бацькаўшчыну.

Пры кім-жа ж мы застанёмся?

Хто над намі будзе панаваць?

Чытае Юрка газэціну, амэрыканскі прэзыдэнт вяліць усякай зямлі, усякаму народу дзяржаць парадак сваймі сіламі.

Ня трэба, кажа, каб адны над другімі валадалі. Можа сярмяга ўваружыцца для ўтрыманьня свайга ладу, склікаць з усіх вёсак і мест сэйм, назначыць сваё ўпраўленьне і ад малога да вялікага, усе ўстановы з нашых людзей злажыць.

— Ня вашым, кажу, носам!

Калі кінуцца ўсе на мяне.

— Што-ж мы, кажуць, быдлё якое? Ці-ж гэта мы арыштанты якія, каб век збыць паднявольнымі?

— Якая-ж мне падняволя?

— Маўчы, кажуць, галапупец, табе добра за ўсякім парадкам! Ты і вайны ня чуў. А ўсё з сваім гострым языком. Каго ўкапаеш, бульбу вынайдзеш захаваную ці скаціну няпісаную. А сам і ў абоз ня едзеш. То сланінкай зашмаруеш, то з водкай заляціш.

Тут мне і адбрахацца няма чым.

А ўсё кажу дай сабаку кусок хлеба ды кажы, каб прасіў Бога, каб мужык панам ня быў.

Кажуць мне, каб цалаваў сабаку у... аж мне брыдка вам сказаць нават куды.

Летась я з вамі іначай загаварыў-бы, але цяперака і газэта гэта грызмоліць, мусіць не забараняюць гэтага пісаць, ці што, альбо я ведаю.

Цьвердзяць суседы, што ў Нямеччыне на міністраў наставілі паслоў ад работнікаў, соцыялістаў значыць. Па ўсім сьвеце пашла ламаніна старога парадку. Брухачы, што мелі рабіць з вайны карысны інтэрэс, адступаюць у тыл, а кашу расхлёбаваць будуць людзі працы. Яны завядуць парадак і паложаць фундамэнт да новага строю.

— Ну што-ж вы, пытаю, пачніцё, га?

А будзем дамагацца як кольвечы ўваружыцца, каб нашых канакрадаў упыніць, каб чужынцоў на Беларусь панаваць ня пусьціць, ды людзей у сэйм устаноўчы пашлемо. Будзем самі над сабой валадаць.

А я сабе думаю, кажу, ня дасьць вам прэзыдэнт амэрыканскі тварыць сваё права, прышле вам якіх паноў ды будуць усё адно вам перад носам трэсьціся.

Але не пасьпеў я гэта сказаць, лучына разам пагасла, а нехта зблізку калі суне мне хвігу пад нос, што аж і цяпер мне здуўшы, дык паляцеў я кульком ад гэных зладзеяў.

Каб іх, як гара, здуло!

*Сусед Мацюк.*

## Пачтовая скрынка.

Просім усіх, хто знае адрасы беларусаў:

**Янкі** Купалы (Івана Луцэвіча),

**Якуба Коласа** (Константына Міцкевіча) і

**Агранома Рышкевіча**, прыслаць іх адрасы ў Рэдакцыю «Гомана».



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман.» Рэдактар Язэп Салавей.